Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА

1 чэрвеня 1991 г.
СУБОТА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

№ 106 (21634)

Цана 10 кап.

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

### РЭСПУБЛІКАНСКІЯ КАМПЕНСАЦЫІ — ВЫШЭЙШЫЯ

**У нумары «Звязды» ад 30 мая ў інфармацыі «ДАПАМОГА СЯМ'І» мы паведамілі аб кампенсацыях сем'ям, якія маюць дзяцей. Даныя рэдакцыя атрымала з аддзела Савета Міністраў СССР па справах жанчын, абароны сям'і, мацярынства і дзяцінства.**

**Публікацыя выклікала мноства званкоў нашых чытачоў, якія адзначалі, што ў шэрагу выпадкаў кампенсацыі ў рэспубліцы большыя за саюзныя і цікавіліся, ці захаваюцца яны.**

**Як паведаміла рэдакцыі начальнік аддзела па справах жанчын і сям'і Дзяржкампрацы БССР В. Ладыжэнка, сапраўды, адпаведныя кампенсацыі ў Беларусі значна вышэйшыя. У бліжэйшы час насельніцтва будзе падрабязна праінфармавана аб гэтым.**

### ЕЛЬЦЫН ДАПАМОЖА ГАРБАЧОВУ?

**КІЕТА. Выбранне Барыса Ельцына Прэзідэнтам Расіі значна палепшыла б палітычную сітуацыю ў краіне, заявіў тут на прэс-канферэнцыі міністр замежных спраў РСФСР Андрэй Козыраў. Ён прыбыў у Японію для ўдзелу ў канферэнцыі ААН па праблемах раззбраення.**

У ваенных і кансерватыўных колах, адзначыў міністр, працягваецца супраціўленне рэформам. Калі Барыс Ельцын атрымае перамогу на выбарах і рэспубліка, якая валодае 80 працэнтамі прамысловага і ваеннага патэнцыялу краіны, трывала стане на шлях дэмакратычнага развіцця, то ўмацуецца прэзідэнцкая ўлада Міхаіла Гарбачова, а гэта дазволіць стрымаць націск кансерватараў. Міністр лічыць, што абодва лідэры будуць супрацоўнічаць у правядзенні рэформ.

### З ЖЫЛЛЁМ ПРАБЛЕМ НЕ БУДЗЕ

**ЛІДА. (А. Дук). У аб'яднанні «Лідабудканструкцыя» пачаўся мантаж новага цэха, які ў недалёкай будучыні будзе выпускаць у год каля 1.000 катэджаў для сельскай мясцовасці.**

Абсталяванне ў цэху поўнасцю аўтаматызавана. Васемсот тысяч інвалютных рублёў заплаціла за яго французскай фірме «Дэмлер» гродзенскае вытворчае аб'яднанне «Азот». «Азотаўцы» будуць атрымліваць за гэта чвэрць катэджаў. Аб'яднанне выдзеліла таксама немалыя сродкі на закупку абсталявання для цагельнага завода на 60 мільёнаў штук цэглы ў год.

### ВЕРЫЦЬ ВАЧАМ ЦІ... ФІРМЕ?

**Круглаcутачнае дзяжурства нясе гэтымі днямі ў холе Палаца культуры прафсаюзаў мінчанін Аляксандр Місько. У мінулым годзе тут былі ўстаноўлены замежныя гульнявыя аўтаматы і з таго часу знаходзілася нямала жадаючых паспытаць шчасця, аднак нездарма на Захадзе гэтыя апараты называюць «аднарукімі бандытамі» — яны «славяцца» майстэрствам выкалочвання грошай у аматараў лёгкай здабычы.**

**У сутычцы з «аднарукім бандытам» Аляксею Місюку перамагчы, відаць, не прыйдзецца. Напярэдадні апарат для гульняў галандскай фірмы «Бека», устаноўлены ў Палацы культуры Беларускай федэрацыі прафсаюзаў, выкінуў на табло шэсць дзевятак — 999.999 — выйгрыш у мільён рублёў. Генеральны дырэктар фірмы «Белатракцыён», якой належыць «нашкодзіўшы» аўтамат, Аляксандр Калінін адмовіўся выплаціць незвычайны прыз і паслаў запыт фірме «Бека».**

У адказе генеральнага дырэктара «Бека» Франса ван Цілбурга гаворыцца, што ў праграме «васьмі шчаслівых ліній» суперпрыз не прадугледжаны. Збой у аўтамаце мог здарыцца ў выніку змянення напружання ў сетцы. Гэта не з'яўляецца незвычайнай сітуацыяй у Галандыі. У такім разе ігрок атрымлівае грошы, на якія ён мае права. У гэтым выпадку — гэта пяць тысяч рублёў у крэдыце.

Аляксей Місюк «зарадзіў» у аўтамат 8 тысяч. Тры прайграў. Аляксандр Калінін афіцыяльна заявіў, што згодзен вярнуць Місюку і пройгрыш як кампенсацыю за прычыненыя нязручнасці. Толькі б хутчэй скончыць з гэтай справай.

Аднак «гора-пераможца» не згодзен з такім рашэннем. Суткамі ён не адыходзіць ад аўтамата. Разам з сябрамі начуе побач на прынесеных матрацах. За свае грошы яны нанялі пажарніка, які дзяжурыць тут жа з вогнетушыцелем — а раптам аўтамат ад бесперапыннай работы загарыцца і з блока памяці знікне інфармацыя аб нерэальным мільёне? Акрамя тэлеграм у адрас Вярхоўнага Савета, пракурора горада, міністраў юстыцыі і фінансаў, ён яшчэ напісаў і заяву аб пералічэнні 100.000 рублёў у «чарнобыльскі фонд». Калі яму, зразумела, «заплацяць». Як гаворыцца, шчаслівы той, хто верыць.

(БЕЛТА).

### КАНКРЭТНАЯ ДАПАМОГА КАНКРЭТНЫМ ЛЮДЗЯМ

**СМАРГОНЬ. (Т. Кумішча). Раённае аддзяленне Савецкага фонду міру правяло акцыю дапамогі ветэранам вайны, адзінокім, састарэлым людзям. Фондам было выдзелена больш чатырох тысяч рублёў для пакупкі ім цёплых рэчаў: коўдраў, куртак і інш. Днямі член праўлення фонду А. Задорская перадала набытыя рэчы жыхарам Залескага, Жодзішкаўскага і Крэўскага сельсаветаў. Такая ж дапамога ў хуткім часе будзе аказана і іншым вёскам.**

# МАЛАДЗЕЧНА — ГОРАД СОНЦА?

## А ЧАМУ Б І НЕ!

**За ажыццяўленне ідэй Тамазы Кампанэлы ўзяліся народныя дэпутаты БССР Г. КАРПЕНКА і В. ГАНЧАР.**

**Мы бачылі: у першыя дні работы чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета БССР ім моцна і шчыра паціскалі рукі многія калегі-дэпутаты. Адны ўхвалялі іх рашэнні, другія — віншавалі і жадалі поспехаў, хоць і не праміналі спытаць: маўляў, а навошта вам гэта... І Генадзь Дзмітрыевіч, і Віктар Іосіфавіч з уласцівымі ім пачуццямі гумару адказвалі прыкладна аднолькава: працаваць хочацца...**

**Такім чынам, два папулярныя народныя дэпутаты БССР — доктар тэхнічных навук Г. КАРПЕНКА і кандыдат юрыдычных навук В. ГАНЧАР нядаўна заступілі на новыя пасады: першы абраны старшынёй Маладзечанскага гарадского Савета, другі — яго намеснікам.**

В. Ганчар.

Г. Карпенка.

**— У рэспубліцы зараз вельмі складаная сітуацыя. Чуваць галасы аб роспуску парламента. Ваша «адступленне» ў Маладзечна — гэта жаданне забяспечыць тылы?..**

**Г. Карпенка:** Ведаеце, гэта было б даволі дзіўнай формай забеспячэння тылу — лезці ў такую справу, як гарадская гаспадарка. Для тыла-будаўніцтва ёсць цяпер куды лепшыя формы прыкладання энергіі, напрыклад, стварэнне якой-небудзь асацыяцыі ці малога прадпрыемства. Не, не тыл гэта, а хутчэй за ўсё вір, з якога выбрацца будзе вельмі няпроста. Але рабіць гэта трэба! Хочацца, каб мы выйшлі, нарэшце, з той ямы, у якой сёння знаходзімся. Сядзець у ёй, сузіраць гарызонты «светлай будучыні» і практыкавацца ў красамоўстве можна бясконца. Павінен жа нехта паспрабаваць выбрацца і выцягнуць іншых! І няхай гэта будзе для пачатку ў адным, асобна ўзятым горадзе.

**В. Ганчар:** Я хачу сказаць яшчэ больш адназначна. Фактычна мы пазбавіліся тылу, паколькі, з пункту гледжання абывацельскай псіхалогіі, тылы ў нас былі больш чым надзейныя: і ў Генадзя Дзмітрыевіча, члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета, і ў мяне, начальніка аддзела вядучага эканамічнага ведамства рэспублікі. Больш таго, гэта першы прэцэдэнт у практыцы апаратных структур Беларусі, калі людзі пакідаюць па ўласнаму жаданню такія пасады. Не ўход у тылы, а хутчэй спальванне мастоў да адступлення: больш цяжкага ўчастка, чым гарадская гаспадарка, ды яшчэ ў Маладзечне, проста няма.

**— Але ж лёс падарыў кожнаму з вас магчымасць для пераўтваральнай дзейнасці ў даволі буйных маштабах — ключавыя пасады ў парламенце, урадзе Беларусі...**

**В. Ганчар:** Цяпер, калі ўлічваць і скрыўленасць мыслення, і інертнасць нашага апарату, проста практычна немагчыма на ўзроўні вышэйшых кіраўнічых структур рэспублікі правесці правільную, навукова абгрунтаваную рэформу. Таму трэба, як гэта і робіцца ў развітых краінах свету, апрабаваць, абкатаць эксперымент у адным рэгіёне, а пасля той вопыт закласці ў заканадаўчыя акты і распаўсюдзіць на Беларусь.

**— Эксперымент — гучыць горда...**

**Г. Карпенка:** Вы хочаце сказаць: чаму не так — праект ці пражэкт? Размова, наколькі я разумею, заходзіць аб сутнасці тых пераўтварэнняў, якія мы збіраемся ажыццяўляць.

У аснове асноў — барацьба з размеркавальніцтвам, на якім у нас сёння «трымаецца» літаральна ўсё. Краіна пераўтварылася ў вялізны размеркавальнік. Найбольшай «пашанай» карыстаецца той чалавек, які што-небудзь размяркоўвае, у якога штосьці ёсць, а не той, хто вырабляе прадукты, прадметы штодзённага ўжытку і інш. І таму колькі б мы ні павышалі цэны, у нас усёроўна нічога не хопіць усім.

Возьмем гандаль, забеспячэнне жыхароў Маладзечна прадуктамі харчавання. Без новых камерцыйных структур, якія шукалі б вытворцаў патрэбнага тавару ва ўсіх рэгіёнах, наладжвалі б дзелавыя кантакты, а не сядзелі б па гандлёвых кропках у чаканні патоку таго тавару,— справа не зрушыцца ні на крок.

Мы гутарылі з кіраўнікамі гандлю горада. Ніводзін з іх не выходзіць сёння напрамую на вытворцаў тавараў, прадуктаў. Дырэктары ж прамысловых прадпрыемстваў гатовы ўзяць пустыя магазіны ў арэнду, выкупіць іх, каб падабраць потым такі калектыў, які б працаваў...

А нашы ўзаемаадносіны з вёскай? Сёння трэба нарэшце практычна вырашыць пытанне аб прамым узаемадзеянні горада і вёскі, асабліва такіх структурных адзінак, дзе ёсць гарадскія і раённыя ўлады адначасова. Атрымліваецца ж так, што горад і раён узаемадзейнічаюць паміж сабой не напрамую, а праз трэція структуры, прыдуманыя ў нас: аблвыканкомы, аблсаветы і г. д. Менавіта яны, гэтыя трэція структуры, і пачынаюць ажыццяўляць «узаемаадносіны», скажам, Маладзечна і раёна, размяркоўваць тое, што створана тут. Каму гэта патрэбна — тлумачыць, думаю, не трэба.

Найвастрэйшая праблема ў нашым горадзе — жыллё. Людзі стаяць у чарзе ажно з 1966 года! Чвэрць стагоддзя, лепшая частка жыцця — у чаканні звычайных чалавечых умоў... Тут праграма такая: будаўніцтва прадпрыемствамі жылля для сваіх рабочых і служачых за кошт прыбыткаў; мэрыя горада — заказчык жылля для насельніцтва; прадастаўленне зямельных участкаў усім, хто жадае будавацца сваімі сіламі.

**— Цікава, няўжо вашы папярэднікі не бачылі такога простага шляху: узяла мэрыя ды і заказала жыллё для ўсіх жадаючых.**

**Г. Карпенка:** І зноў тут усё замыкаецца на існаванні магутных іерархічных структур, што існуюць за кошт пераразмеркавання.

**— Тут, відаць, варта спыніцца на сістэме фарміравання бюджэту, ці не так?**

**Г. Карпенка:** Так. Усё тое, што адбываецца на сесіях мясцовых Саветаў пры зацвярджэнні бюджэтаў — сапраўдны падман, вялікая фікцыя. Вобласць у асобе аблвыканкома «спускае» загадзя падрыхтаваныя лічбы, а дэпутаты галасуюць за іх. А ў тым ці іншым канкрэтным рэгіёне ці горадзе ёсць буйныя прадпрыемствы, якія пералічваюць даволі вялікія працэнты ад прыбытку ў тыя ж вышэйстаячыя структуры — абласныя, рэспубліканскія, саюзныя. Тыя, у сваю чаргу, выступаюць у ролі добрага дзядзькі: можам даць, а можам і не даць... Я думаю, што на месцах органы Савецкай улады лепш разабраліся б у тым, што ў той ці іншай мясцовасці сёння патрэбна ў першую чаргу, у тым ліку і ў галіне капітальнага будаўніцтва. Апарат жа, што выступае ў ролі гэткага дабрадзея, нам зараз зусім не патрэбен.

**В. Ганчар:** Так, цяперашняя сістэма зусім не мае разумнага сэнсу. Ніводнае буйное прадпрыемства, што знаходзіцца ў Маладзечне, на горад не працуе. Маем мэблевую фабрыку — не маем мэблі. І гэтак выключна ва ўсім. Пераход на самазабеспячэнне — стратэгічная мэта і канчатковая праграма. Але перш чым перайсці да яе, давядзецца ствараць падстраховачныя структуры, якія

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАСТАНОВЫ Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

**Аб вызваленні таварыша СЯНЬКО Ф. П. ад пасады намесніка Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР**

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі пастанаўляе:

Вызваліць таварыша Сянько Фёдара Пятровіча ад пасады намесніка Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР у сувязі з пераходам на іншую работу.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**
28 мая 1991 г.
гор. Мінск.

**Аб назначэнні міністра прамысловасці будаўнічых матэрыялаў Беларускай ССР**

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Назначыць міністрам прамысловасці будаўнічых матэрыялаў Беларускай ССР таварыша **Майсяевіча** Анатоля Францавіча.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**
28 мая 1991 г.
гор. Мінск.

**Аб назначэнні намесніка Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР**

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Назначыць намеснікам Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР таварыша **Дземчука** Міхаіла Іванавіча, вызваліўшы яго ад пасады міністра народнай адукацыі Беларускай ССР.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**
28 мая 1991 г.
гор. Мінск.

**Аб вызваленні таварыш МАЗАЙ Н. М. ад пасады намесніка Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР**

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Вызваліць таварыш Мазай Ніну Мікалаеўну ад пасады намесніка Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР згодна з пададзенай заявай.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**
28 мая 1991 г.
гор. Мінск.

**Аб назначэнні намесніка Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР**

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Назначыць намеснікам Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР таварыша **Шахновіча** Аляксея Аляксеевіча, вызваліўшы яго ад пасады міністра воднай гаспадаркі і аднаўлення зямель Беларускай ССР.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**
28 мая 1991 г.
гор. Мінск.

# «Я — за грамадзянскую згоду», —

**гаворыць кандыдат у народныя дэпутаты БССР па Каліноўскай выбарчай акрузе № 29 С. К. КУРАНКОЎ**

Ваенком Першамайскага раёна горада Мінска падпалкоўнік Сяргей Канстанцінавіч Куранкоў у Савецкай Арміі з 1969 года. Службу праходзіў у Групе савецкіх войск у Германіі. Служыў у Сярэднеазіяцкай, Маскоўскай і Сібірскай ваенных акругах у пасадах ад камандзіра ўзвода да камандзіра палка. Два гады выконваў інтэрнацыянальны абавязак у адной з краін на пасадзе саветніка камандзіра пяхотнай брыгады. Прымаў удзел у баявых дзеяннях. Узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, «Знак Пашаны» і пяццю медалямі.

З 1988 года і па сённяшні час ваенны камісар Першамайскага раёна г. Мінска. А нядаўна ад ветэранскай арганізацыі раёна ён зарэгістраваны кандыдатам у народныя дэпутаты БССР па Каліноўскай выбарчай акрузе № 29.

Што ж прымусіла яго, і без таго занятага службовымі клопатамі, уключыцца яшчэ і ў перадвыбарную барацьбу? З гэтага пытання і пачалася гутарка з кандыдатам у дэпутаты.

— Мяне вылучылі ветэраны вайны, працы і Узброеных Сіл і воіны-інтэрнацыяналісты. Мне з гэтымі людзьмі па абавязку службы часта прыходзіцца сустракацца, не магу заставацца абыякавым, калі іх прыніжаюць, паклёпнічаюць на іх. Ну хто, скажыце, за іх заступіцца?

Раскажу ў першую чаргу пра сваю перадвыбарную платформу. Пералічу яе па пунктах:

— забяспечыць сацыяльную абарону ветэранаў вайны і працы, Узброеных Сіл, воінаў-інтэрнацыяналістаў, інвалідаў і сем'яў, якія страцілі кармільцаў, палепшыць іх пенсіённае забеспячэнне, медыцынскае абслугоўванне;

— змагацца за ўвекавечанне памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў, сацыяльную адаптацыю тых, хто вярнуўся з вайны;

— дабівацца правядзення рэформы ў арміі, хутчэйшага выхаду Закона СССР аб абароне, удасканалення грашовага і пенсіённага забеспячэння афіцэраў і прапаршчыкаў, ветэранаў Узброеных Сіл СССР.

На мой погляд, у Беларусі павінны быць створаны дзяржаўная сістэма санаторна-курортнага лячэння і цэнтры рэабілітацыі насельніцтва рэспублікі ад уздзеяння радыяцыі.

**Гутарку вёў І. ЦІТОЎ, ветэран вайны, працы і КПСС.**

## СЁННЯ — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ

Сонечным ранкам.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

# Рэдкае аднадушша

## З сесіі Вярхоўнага Савета БССР

Вельмі рэдкі выпадак у нашым парламенце: супраць Закона «Аб занятасці насельніцтва Беларускай ССР» не галасаваў ні адзін дэпутат. У гэтай аднадушнасці нам бачыцца не толькі імкненне аблегчыць долю тых нашых суграмадзян, якіх няўмольны рынак можа адправіць «на вуліцу», але і ўсведамленне парламентарыямі сённяшніх рэалій і будучых сацыяльных узрушэнняў. Як адзначыў старшыня Камісіі па пытаннях працы, цэн, занятасці і сацыяльнай абароны насельніцтва Аляксандр Сасноў, які прадставіў дакумент да другога чытання 30 мая, ён заклікаы знізіць сацыяльную напружанасць у грамадстве.

Пасля адносна спакойнага абмеркавання некалькіх законапраектаў разгляд Закона «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Беларускай ССР» адразу ж пачаўся з дыскусіі. І настолькі бурнай, што дэпутат

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ЗВАРОТ ДА КАМУНІСТАЎ — НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ БССР

Паважаныя таварышы! На жаль, ёсць яшчэ нямала сіл, якія імкнуцца пагоршыць справу ў краіне, працягваючы нагнятаць напружанасць. Яны кіруюцца задавальненнем уласных палітычных амбіцый, патрабуючы звяржэння законна выбраных органаў улады, устаранення КПСС з грамадскага жыцця, дэпартызацыі і дэпалітызацыі працоўных калектываў. Гэтыя антысацыялістычныя сілы пад прыкрыццём агульных разважанняў пра «новае аблічча сацыялізму» мэтанакіравана дабіваюцца капіталізацыі савецкага грамадства, разбурэння ўсяго таго добрага, што было створана нашым народам за мінулыя дзесяцігоддзі.

Мы, члены Лідскага райкома КПБ, выказваем пратэст супраць падобных замахаў, бо права чалавека на свабодную палітычную дзейнасць замацавана ў Парыжскай хартыі для новай Еўропы ад 21 лістапада 1990 г., заключанай кіраўнікамі дзяржаў і ўрадаў краін — удзельніц Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Права стварэння партый і ячэек па месцы работы і вучобы — агульнапрызнаная дэмакратычная норма, якая вынікае з Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека (арт. 2, 18, 19, 20, 29), і гэтага права ніхто нікога не можа пазбавіць. Яно замацавана таксама ў Канстытуцыях СССР і БССР (арт. 6, 48, 51) і Законе СССР «Аб грамадскіх аб'яднаннях».

Мы пратэстуем супраць замаху на ўласнасць КПСС, бо яна ствaралася пакаленнямі камуністаў і з'яўляецца агульнапартыйнай уласнасцю, а не чыёй-небудзь іншай, як гэта хочуць паказаць.

Мы звяртаемся да дэпутатаў - камуністаў, а таксама беспартыйных: няхай не страсці і амбіцыі, а грамадзянская сталасць кожнага з вас стане асновай нармалізацыі абстаноўкі і павышэння жыццёвага ўзроўню людзей. Мы, вашы выбаршчыкі, верым у вашу дэпутацкую мудрасць.

**Зварот прыняты на пасяджэнні пастаяннай камісіі па арганізацыйнай і кадравай рабоце Лідскага райкома КПБ.**

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

# Каму верыць?

У дакументах аб рознічных цэнах гаворыцца:

Не павышаць рознічныя цэны на медыкаменты і вырабы медыцынскага прызначэння, каву, тканіну з сінтэтычных валокнаў і вырабы з яе, на сінтэтычныя абутак, футравыя, трыкатажныя, панчошна-шкарпэткавыя вырабы і цацкі, на бензін, газу, электраэнергію, газ, вугаль, пячное паліва і дровы, якія адпускаюцца насельніцтву, а таксама на гарэлку.

Аднак наша раённая газета «Кобрынскі веснік» паведаміла, што, згодна з пастановай Дзяржплана БССР ад 29.03.91 г., кошт балона звадкаванага газу 1 рубель 70 капеек, кошт яго дастаўкі 2 рублі 30 капеек. Такім чынам агульны кошт балона — 4 рублі (быў 2 руб. 20 кап.). Для абанентаў, якія карыстаюцца льготамі, агульны кошт балона — 3 рублі 15 капеек (быў 1 руб. 10 кап.).

Нядаўна звярнуўся ў міжкалгаснае лясніцтва, каб выпісаць дроў. Мне сказалі, што дровы падаражалі больш чым удвая. Але як жа тады быць з Указам Прэзідэнта і пастановай урада?

**Р. ПІРАКОЎСКІ,**
**інвалід II групы, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Як паведамілі ў рэспубліканскім Камітэце па паліву і газіфікацыі, рознічныя цэны як на газ, так і на** дровы застаюцца тыя ж самыя, старыя. Падаражала дастаўка, г. зн. транспартныя расходы. Прычым на сённяшні дзень гэта датычыць толькі дастаўкі дроў. А вось новыя «транспартныя» тарыфы на газ, у сувязі з вядомымі красавіцкімі падзеямі, праіснавалі прыкладна 10 дзён. У выніку карыстанне газавымі балонамі разам з іх дастаўкай каштуе цяпер столькі ж, як і раней.

Праўда, як зазначаюць работнікі ведамства, баставаць трэба ўжо ім. Іх жа расходы падлічваюцца «па-новаму», з-за чаго абслугоўванне насельніцтва стала крайне стратнай аперацыяй (між іншым, можна смела гарантаваць, што гэта непазбежна адаб'ецца і на якасці абслугоўвання). Чым пакрываць гэтыя страты, з якіх сродкаў плаціць зарплату людзям? — задалі пытанне нашаму карэспандэнту.—Мінфінаўскімі датацыямі? Але ж Мінфін не хоча ісці на гэта, ды і само слова «датацыя» гучыць у наш перадрыначны час вельмі несур'ёзна.

Карацей кажучы, вось як усё ўзаемазвязана... Дарэчы, гэты прыклад лішні раз пацвярджае, што каб некаму што-небудзь даць, у іншага гэткую ж долю трэба забраць. Хоць вядома, калі падыходзіць да гэтага пытання ў больш шырокім плане, — варта прызнаць: у асобных ведамстваў і комплексаў і не перашкаджала б пэўную бюджэтную долю менавіта забраць. На карысць канкрэтнага спажыўца.

# Куртатыя льготы

Больш за 35 гадоў ахвяры сталінскіх рэпрэсій чакалі заслужаных ільгот. І вось нарэшце ў канцы красавіка г. г. яны атрымалі пасведчанні на карыстанне імі. Атрымалі і... расчараваліся.

На аснове Указа Прэзідэнта СССР ад 13 жніўня 1990 г. былі прыняты пастановы Вярхоўнага Савета БССР ад 21 снежня 1990 г. і Савета Міністраў БССР ад 29 снежня 1990 г. аб прадастаўленні льгот былым вязням сталінскіх рэпрэсій 30—40-х і пачатку 50-х гадоў. Як ва Указе Прэзідэнта, так і ў пастанове Вярхоўнага Савета БССР ішла гаворка аб тым, каб гэту катэгорыю грамадзян СССР прыраўняць да ўдзельнікаў вайны, а інвалідаў з іх ліку— да інвалідаў вайны. Усе мы на гэта і спадзяваліся. Але дарэмна. Нас ашукалі. Свядома ці не, але ашукалі.

У пасведчаннях, якія мы атрымалі, сказана, што рэабілітаваныя маюць правы «на бясплатны праезд у гарадскім транспарце (аўтобусе, тралейбусе, трамваі) і аўтобусах прыгарадных маршрутаў па месцы жыхарства». А дзе ж метро? Па-мойму, гэта таксама гарадскі транспарт. «...Ільготы па аплаце за лякарствы, пераважнае абслугоўванне ў амбулаторна - паліклінічных установах, прадпрыемствах сувязі і бытавога абслугоўвання насельніцтва, білетных касах і іншыя льготы». А якія гэта «іншыя льготы», хто ведае? Акрамя таго, дзе льготы па аплаце камунальных паслуг? Чаму нічога не сказана аб ільготных праязных білетах на прыгарадны чыгуначны і аўтобусны транспарт? А няўжо рэабілітаваныя не заслужылі льгот у такім важным пытанні, як падаткаабкладанне? Чаму нічога не сказана пра льготнае санаторна - курортнае лячэнне?

Можна было паставіць яшчэ не адно «чаму?». Але хопіць. Кожны бачыць, што льготы, аб якіх шмат было гаворкі, зрабіліся куртатымі. Ці не лепш было б іх наогул не пералічваць у выдадзеных пасведчаннях, а сказаць літаральна адной фразай: «Прыраўняць да ўдзельнікаў вайны». А іх ільготы даўно ўсім вядомыя. І гэта было б справядліва. Іменна так зрабілі народныя выбраннікі Масквы, Ленінграда, Ноўгарада, Саратава і іншых гарадоў краіны. Я лічу, што памылку гэту выправіць яшчэ не позна і Мінскаму гарадскому Савету народных дэпутатаў. Бо такіх «утрыманцаў» засталіся ўжо адзінкі, пра што гарадскім уладам добра вядома.

**Павел ПРУДНІКАЎ,**
**былы вязень ГУЛАГа.**

# Чытач просіць слова

**«Што ў Указе запісана пяром — хто ж высякае ўладарным тапаром!»**

**«Колькі ж металалому гіне на «могільніках»!»**

**«Чым загадаеце радыяцыю замяраць!»**

**«Я ім грошы, яны мне — абяцанкі...»**

# Абрыдла чакаць

**Скажыце, дзе я магу даведацца, калі нарэшце змагу набыць за свае ж грошы дазіметр?**

**Колькі мне, ды і не толькі мне, будуць кампасіраваць мазгі, што, маўляў, прамысловасць не паспявае выпускаць, што дорага яны каштуюць і г. д. І хто гэта стаў шкадаваць мае грошы? Усё лухта і фікцыя. Навошта мяне лічыць дурнем? Усе гэтыя «шкадавальнікі» з верхніх эшалонаў улады не хочуць, каб я сам змяраў і ведаў, якая радыяцыя. Ім гэта нявыгадна, каб чалавек ведаў праўду. А вось таму, што яны скажуць, трэба верыць! Шосты год пайшоў пасля выбуху на АЭС, а прамысловасць ніяк не можа той няшчасны дазіметр выпусціць. Вось да чаго дажыліся!**

**І другое. Дзе ж тая дапамога ад замежных дзяржаў бедным дзецям, пра якую ўвесь час гаварылі, пісалі? Дзе яна? Няўжо знаходзяцца «добрыя дзядзькі», якія і гэту дапамогу хапаюць у свае рукі? У нас такое бывае.**

**Вось пра што мае пытанні. Рэзка? Нічога. Абрыдла слухаць няпраўду. Ах, як абрыдла!**

**В. ПАЛЕЕЎ.**

г. Гомель.

# Дзіўныя паслугі

Дарагая рэдакцыя!

Звяртаюся да вас з вялікай просьбай аказаць мне дапамогу. А справа вось у чым.

У самым пачатку студзеня гэтага года я паслаў заяўку ў Мінскую базу «Галоўпасылгандлю» з просьбай выслаць мне рухавік і акумулятар да матацыкла «ІЖ-Планета». 20 студзеня я атрымаў у канверце запоўнены базай паштовы бланк на суму 595 рублёў. Там было сказана выслаць грошы не пазней 30.01.91 г. і названа бліжэйшая чыгуначная станцыя. Я грошы адправіў своечасова і за перавод па пошце заплаціў яшчэ 12 рублёў.

Чакаў адказу ўвесь люты. 2 сакавіка напісаў пісьмо на імя дырэктара базы. Тады мне прыйшоў другі бланк—на 65 рублёў дадаткова. Я пераслаў перавод па пошце. Але мінулі сакавік, красавік, а рухавіка і акумулятара няма. А мне як механізатару калгаса яны вельмі патрэбны.

**У. БРОЎКА.**

в. Слабажанка.
Хойніцкі раён.

# Скарбы на задворках

Гэта было ў далёкім 1950 годзе. З якой нагоды, ужо не памятаю, неяк давялося зайсці да даволі пажылога вяскоўца. У першы момант з'явілася непрыемнае ўражанне: здзяцінеў чалавек ці што? А ён на тонкі дрот нанізваў, навязваў металічныя кавалкі — асколкі ад бомбаў, снарадаў, бляшанкі. Гэта вязанка нагадвала своеасаблівую гірлянду.

Заўважыўшы маё здзіўленне, сівы, як лунь, але яшчэ дзябёлы дзядок запрасіў мяне прысесці на калодку і пачаў апавядаць:

— На пераправе праз Басю кіпеў жорсткі бой. Пасля яго наша поле было ўсеяна, як заўсёды, знявечанай тэхнікай, безліччу асколкаў. За мінулыя гады больш буйныя падабралі, а дробязь засталася. Вось я з тачкай і наведваюся туды— гэта ж недалёка. А навошта звязваю? Нарыхтоўшчык россыпам не прымае, бо дробязь згубіцца. За лета і назбіраю на два-тры чырвонцы.

Кожны раз, калі цяпер заглядваю на задворкі прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, успамінаецца той дзядок, бо ўсюды, у тым ліку і там, дзе і почуту няма тэхнікі, валяюцца горы металалому. А каля ачышчальных збудаванняў у Мсціславе наогул утварылася звалка з адпрацаваных машын, іншага абсталявання— металалому там на дзесяткі тон. Такі непрывабны малюнак можна ўбачыць і на машынных дварах калгасаў, саўгасаў. У некаторых гаспадарках за варотамі мехдвароў спецыяльна адведзены ўчасткі для магільнікаў металалому, як, напрыклад, у калгасе «Святло Кастрычніка» Чавускага раёна.

Такую безгаспадарчасць можна ўбачыць у кожным раёне, у любой гаспадарцы ці ўстанове. Скажу толькі, што сотні тысяч тон металу, якога чакае наш Беларускі металургічны камбінат, псуюцца пад дажджом і снегам.

**А. САПЁРАЎ,**
**ветэран вайны і працы.**
г. Мсціслаў.



**У гаючым сасновым лесе размясціўся новы тэрапеўтычны корпус Брэсцкай абласной бальніцы. У ім дзейнічаюць аддзяленні штучнай ныркі і эндаскапічнае, баратэрапіі і спелеалогіі, кабінет прамянёвай тэрапіі, шэраг дыягнастычных службаў і лабараторый.**

**Аддзяленне разлічана на адначасовае лячэнне ста трыццаці хворых. Пацыенты размешчаны ў адна- і двухмесных палатах, абстаноўка і ўтульнасць якіх набліжаны да дамашніх.**

**На аснашчэнне і будаўніцтва корпуса затрачана каля трох мільёнаў рублёў.**

**НА ЗДЫМКАХ: новы тэрапеўтычны корпус Брэсцкай абласной бальніцы; у аддзяленні штучнай ныркі ідзе аперацыя.**

**Фота Э. КАБЯКА. (БЕЛТА).**



# ЗАКІНУТЫ САД

## Ад якой спадчыны мы адмаўляемся

Беларусь здавён славіцца сваімі садамі. Да 1940 года ў рэспубліцы было 90,8 тысячы гектараў садоў. У 1969 годзе плошча іх дасягнула 158 тысяч. Рэспубліка займала чацвёртае месца ў СССР па плошчы садоў і пятае—па валавому збору пладоў. 30 пладовых гадавальнікаў давалі больш як 10 мільёнаў саджанцаў.

З 1970 года ў садоўніцтве рэспублікі ўзнік застой. Быў ліквідаваны трэст гадавальніцкіх саўгасаў, разагнаны кадры спецыялістаў. Скарацілася плошча садоў да 135 тысяч гектараў. Палавіна іх знаходзяцца ў калгасах і дзяржгасах.

### Патрабуе вырашэння

Амаль усе сады грамадскага сектара пасаджаны да 1965 года. Сады ва ўзросце 40—50 гадоў і больш займаюць 20 працэнтаў агульнай плошчы. На думку прафесара БелНДІКПА А. Дзевятава, да 1990—2000 гг. усе існуючыя сады па ўзросту выйдуць з эксплуатацыі.

У застойны перыяд садоўніцтва ў Беларусі фактычна спыніла сваю дзейнасць. Рэспубліка, якая перад вайной вывозіла для рэалізацыі за свае межы 45—50 тысяч тон яблыкаў, цяпер штогод гэтулькі ж завозіць па лініі аграпрома і яшчэ на 45—60 мільёнаў рублёў па лініі спажывукаапрацыі. Вось такая горкая статыстыка.

Асабліва вялікія страты садоўніцтву Беларусі і, у прыватнасці, Гродзеншчыны нанесла антыалкагольная кампанія, калі заўзятыя кіраўнікі разам з ліквідацыяй вінзаводаў пачалі знішчаць сады пад выглядам адсутнасці збыту прадукцыі. Знішчаны прамысловыя сады плошчай ад 50 да 300 гектараў у саўгасах «Талькоўцы», «Гнезна» Ваўкавыскага, «Чарлена» Мастоўскага, «Скідальскі» Гродзенскага раёнаў. Карчуюць сады і ў спецыялізаваных гаспадарках: эксперыментальнай базе «Туркевічы» Шчучынскага, саўгасе «Лоўна» Мастоўскага раёнаў, прычым, усё гэта з санкцыі вучоных Гродзенскай абласной сельскагаспадарчай станцыі.

Аб сумным лёсе садоўніцтва ў Беларусі апошнім часам нямала пісалася ў рэспубліканскім і цэнтральным друку. Толькі справа з месца практычна не зрушылася. Прафесар БСГА А. Багамолаў бачыць прычыну ў наступным: «У БССР няма кроўна зацікаўленых устаноў і асоб, здольных памножыць і захаваць бясцэнны генафонд пладовых, які стварыўся народнай селекцыяй».

Прыкладам гэтага могуць служыць падзеі вакол унікальнага памалагічнага саду, размешчанага ў эксперыментальнай базе «Руткевічы», якая ўваходзіць у састаў Гродзенскага НПА (генеральны дырэктар П. Заяц). Вядучыя вучоныя-садаводы краіны далі высокую ацэнку гэтаму саду, як крыніцы стварэння новых сартоў, адзначалі яго асаблівую важнасць для селекцыйнай работы ў якасці генафонду. Больш дваццаці гадоў таму назад прафесар БСГА А. Іпацьеў пісаў: «Тут (у Руткевічах) знаходзіцца важная частка сусветнай калекцыі сартоў, без чаго селекцыйная работа цяпер немагчыма».

Вывучаючы калекцыю саду, прафесар МДУ І. Ісаева дае такую ацэнку: «Сад, хоць да гэтага часу не вядомы нават многім спецыялістам — унікальны. Ён патрабуе да сябе адносін як да нацыянальнага набытку, запаведніка, помніка прыроды, створанага людзьмі».

Член-карэспандэнт УАСГНІЛ Я. Несцераў адзначыў: «У калекцыі ёсць 270 сартоў яблынь, якіх няма ў сусветнай калекцыі УІР. Гэта сарты беларускай народнай селекцыі, каштоўнейшы генафонд, гонар беларусаў».

Былы дырэктар УІР імя М. Вавілава акадэмік Д. Брэжнеў пісаў дырэктару Гродзенскай абласной сельскагаспадарчай доследнай станцыі П. Зайцу: «Станоўча ацэньваючы намечаную праграму работ, просім аказаць садзейнічанне калектыву супрацоўнікаў аддзела пладовых культур станцыі ў яе выкананні». Замест гэтага П. Заяц і загадчык аддзела П. Кухта аб'яўляюць, што калекцыя — «філатэлія», дабіваюцца яе знішчэння, выганяюць з навукі кіраўніка праграмы, карчуюць сады. Пры гэтым яны фальсіфікуюць адказ і заключэнне члена-карэспандэнта УАСГНІЛ Я. Несцерава, а арыгінал ад супрацоўнікаў і грамадскасці хаваюць.

У абарону памалагічнага саду неаднаразова выступалі цэнтральны друк і Усесаюзнае радыё. Па гэтаму пытанню па Усесаюзным радыё два разы выступаў пісьменнік І. Філоненка. Водгукам на гэту перадачу былі дзесяткі тысяч пісьмаў ад грамадзян нашай краіны ў абарону саду і яго стваральніка. У той жа час І. Філоненка адзначае: «Калектыў Гродзенскай сельскагаспадарчай доследнай станцыі ўцягнуў мяне ў доўгае непрыемнае проціборства. Ад яго пайшлі калектыўныя скаргі ва ўсе інстанцыі, якія асуджаюць пісьменніка. Яны ўсё адмаўлялі. Не адмаўлялі, бадай, толькі існаванне Г. Рылава. Але што ён займаўся навуковай дзейнасцю —гэта бралі ў двукоссе. Унікальны сад сёння па сутнасці без гаспадара, лёс яго застаецца нявырашаным, што і з'яўляецца прычынай сваркі калектыву Гродзенскай доследнай станцыі з Рылавым, стваральнікам гэтага саду».

У артыкуле «Лёс садоў непаўторных» («Сельская жизнь», № 254 ад 4.10.1988 г.) карэспандэнты ТАСС М. Панчанка і Д. Смірноў адзначалі: «Адно з самых багатых насаджэнняў у краіне — памалагічны сад «Руткевічы» Гродзенскай вобласці. У гэтым сэнсе ён хавае ў сабе нямы дакор цяперашнім кіраўнікам галіны і апякаючай яе навуцы. А сучаснае садоўніцтва, маючы вялікую сетку інстытутаў і доследных станцый, да гэтага часу не ўсюды ўлічыла, сістэматызавала і запаведала багатую памалагічную спадчыну».

На Зямлі ідзе эрозія генафонду, парушана экалагічная раўнавага, гінуць фауна і флора. Абавязак вучоных захаваць генафонд, сабраны ў Руткевічах, для будучых пакаленняў. У Асновах заканадаўства Саюза ССР і саюзных рэспублік «Аб зямлі» ў артыкуле 32 «Землі прыродаахоўнага прызначэння» сказана, што «да зямель прыродаахоўнага прызначэння адносяцца землі запаведнікаў, нацыянальных і дэндралагічных паркаў, батанічных садоў, помнікаў прыроды». На ўказаных землях забараняецца дзейнасць, якая супярэчыць іх мэтаваму прызначэнню. З прычыны таго, што памалагічны сад адносіцца да запаведніка, помніка прыроды, на яго таксама распаўсюджваецца дадзены артыкул Закона.

Пасля майго выступлення ў газеце «Известия» (№ 52 ад 21 лютага 1989 года) з артыкулам «Гэтыя горкія салодкія яблыкі з заморскіх садоў...». Усесаюзны навукова-даследчы інстытут садоўніцтва імя І. У. Мічурына звярнуўся да старшыні Гродзенскага аблсавета народных дэпутатаў Д. Арцымені з просьбай «выдзеліць зямельны ўчастак плошчай 50 гектараў на землях э/б «Руткевічы» Гродзенскага НПА, у тым ліку 30 гектараў памалагічнага саду для арганізацыі апорнага пункта УНДІС імя І. У. Мічурына ў Гродзенскай вобласці».

Вучоны савет УНДІС прыняў рашэнне, у якім сказана: «Цяпер напружана складваецца экалагічная сітуацыя як у свеце, так і ў нашай краіне, таму становіцца актуальнай праблема распрацоўкі экалагічна чыстых тэхналогій вытворчасці прадуктаў садоўніцтва. Адным са шляхоў вырашэння гэтай праблемы з'яўляецца выкарыстанне сартоў пладовых культур з натуральнай устойлівасцю да асноўных грыбковых захворванняў».

Гэты зварот падтрымаў акадэмік УАСГНІЛ В. Шавялуха: «У сувязі з тым, што створаны генафонд мае вялікую навуковую каштоўнасць і значную цікавасць для селекцыі ў якасці крыніц і донараў каштоўных прыкмет, УАСГНІЛ лічыць мэтазгодным перадаць памалагічны сад э/б «Руткевічы» ствараемаму апорнаму пункту УНДІ садоўніцтва імя І. У. Мічурына».

У падтрымку стварэння апорнага пункта выступілі вядучыя вучоныя краіны: Я. Несцераў, Ф. Ліханос, І. Сіманаў, А. Багамолаў, В. Рудкоўскі, Л. Дазорцаў, Е. Кумінаў, Н. Мельнік і многія іншыя.

Пасля прыняцця рашэння УНДІС імя І. У. Мічурына аб стварэнні на базе памалагічнага саду апорнага пункта з гадавальнікам па вырошчванню эліты новых сартоў дырэктар Гродзенскай доследнай станцыі П. Заяц шляхам падману імкнецца не дапусціць стварэння апорнага пункта і знішчыць унікальны сад-калекцыю. У адказе на артыкул у газеце «Известия» П. Заяц піша: «Доследы па калекцыйнаму вывучэнню сартоў яблыні, называемага Г. Рылавым «памалагічным» садам, закладзеным у 1964—1965 гг., закончаны ў 1980 годзе, напісана справаздача. Цяпер ураджай з калекцыйнага саду, прадстаўленага сумессю сартоў розных тэрмінаў паспявання, выкарыстоўваецца для прамысловай перапрацоўкі. У 1989—1990 гг. заканчваецца тэрмін амартызацыі калекцыйнага саду». Вось так, «заканчваецца тэрмін» і, значыць, сад можна знішчыць.

Далей П. Заяц піша: «Савет працоўнага калектыву гаспадаркі на савеце гасразліковай брыгады садоўніцтва эксперыментальнай базы «Руткевічы» не даў сваёй згоды на перадачу калекцыйнага саду, называемага Г. Рылавым «памалагічным», СПТВ-198, з прычыны размяшчэння яго ўнутры масіву прамысловых садоў». Тут П. Заяц уводзіць людзей у зман. Памалагічны ж сад знаходзіцца не ўнутры, а ў канцы прамысловага саду, мяжуе з землямі калгаса «1 Мая» і лёгка можа быць аддзелены ад зямель э/б «Руткевічы».

На нашу думку, стварэнне апорнага пункта захавае калекцыю ад знішчэння, дазволіць унесці істотны ўклад у развіццё садоўніцтва вобласці і Заходняга рэгіёна краіны.

**І. ПАЛАГЕЧА,**
**народны дэпутат БССР,**
**Г. РЫЛАЎ,**
**кандыдат сельскагаспадарчых навук.**

# І. ПАЛАЗКОЎ: «СІТУАЦЫЯ МЯНЯЕЦЦА НА НАШУ КАРЫСЦЬ»

**Адносіны да палітыкі, якую праводзіць Кампартыя РСФСР, у нашым грамадстве вельмі розныя, калі не сказаць палярныя. Многія лічаць, што лідэры расійскіх камуністаў займаюць сёння адзіна правільную пазіцыю, іншыя, не выбіраючы слоў, а часта і не ўнікаючы ў сэнс, што называецца з парога, адразу ж крытыкуюць любы іх крок толькі таму, што яго зрабілі менавіта кіраўнікі Кампартыі Расіі.**

**Магчыма, гутарка з членам Палітбюро ЦК КПСС, першым сакратаром ЦК КП РСФСР І. ПАЛАЗКОВЫМ і членам Палітбюро ЦК КП РСФСР Г. ЗЮГАНАВЫМ у нейкай меры дапаможа чытачам «Звязды» глыбей разабрацца ў тым, чаго хочуць камуністы Расіі і як яны будуць дабівацца сваіх мэт.**

**І. Палазкоў:** Партыйныя арганізацыі на месцах сёння аказаліся ў супярэчлівым становішчы. Яны павінны абараняць працоўных. Ад каго? Безумоўна, патрэбна праграма выхаду з крызісу. Але ясна, што пры любой праграме выдаткі лягуць у асноўным на плечы працоўных мас. Нядаўна мы абмяркоўвалі гэта на сваім пленуме, які прайшоў вельмі востра і бурна, бо ў Кампартыі Расіі цяпер не адна палітычная плынь. Адны выступалі супраць падтрымкі такіх праграм, іншыя лічаць іх нармальнай з'явай.

І наогул, больш пытанняў, чым адказаў. Жадаючых даваць парады шмат, а займацца практычнай работай — мала. Нямала прыйшло моладзі на партыйную работу — без вопыту, без практыкі. А іншыя партыі акрамя крыку, мітынгоўшчыны нічога не прапануюць — у гэтым наша трагедыя.

**— Можа, зноў партыя ідзе ўслед за падзеямі? Антыкрызісная праграма была зацверджана, а толькі потым разглядалася на пленуме.**

**І. П.:** З'езд праграму не разглядаў, Вярхоўны Савет вырашыў перадаць яе ў грамадскія арганізацыі для абмеркавання. Такая тэхналогія зусім прымальная. Калі нашы патрабаванні не будуць прыняты — будзем высвятляць адносіны з Вярхоўным Саветам.

**— Наконт артыкула Зюганава па Якаўлеву ў «Советской России» — што тут засталося «за кадрам»?**

**Г. Зюганаў:** «За кадрам» — многія сюжэты больш прыватнага характару. Мяне засмучае тое, што ніхто не тлумачыць, што такое наперад, а толькі абвінавачваюць нас, што мы цягнем назад. Мы пярэчым супраць бачання дзяржаўнасці Ельцыным, што адкідвае нас на 300 гадоў назад, вяртае да феадалізму.

Гавораць яшчэ, што мы — антырыначнікі. Напомню, што рынку 7 тысяч гадоў. Мы за тое, каб перайсці да больш развітога рынку, бо цяпер у нас яго няма наогул, ідзе натуральны абмен.

Гавораць, што мы супраць прадпрымальніцтва. Мы — за. Але цяпер прадпрымальніцтва ў нас крымінальна-спекуляцыйнае, у палітыку ўрываюцца чорныя дзялкі. Я падтрымліваю ўсе рэформы, у тым ліку і антыалкагольную. Але лічу, што па тэхналогіі яны праведзены дрэнна. Гэта не падабаецца тым, хто іх праводзіў. Патрэбна была спачатку рэформа партыі, а потым ужо ўсе іншыя. Бо адна справа, калі ліхаманіць Балгарыю, і зусім іншая — краіну, дзе 12 тысяч ядзерных зарадаў.

**І. П.:** Мы разумеем перабудову як адмову ад сталінскага сацыялізму. Партыя, якая прэтэндуе на ролю праваднікa, павінна сказаць дакладна — куды вядзе, расставіць вешкі на шляху. Калі скажам, што не ведаем — людзі справядліва прад'яўяць рахунак. А ярлыкі навешваць вельмі проста.

**Г. З.:** Я раней лічыўся радыкалам...

**І. П.:** Мяне ў Краснадары абвінавачвалі ва ультраперабудоўшчыне...

**Г. З.:** Раней наша партыя была ў інфармацыйнай блакадзе, цяпер яе прарываем, работнікі ЦК за тры месяцы пабывалі ў тысячы працоўных калектываў — і імідж, аблічча партыі ў вачах людзей мяняюцца.

**— Вы пачалі з супярэчлівага становішча партарганізацый, з пытання—ад каго абараняць працоўны народ? Ад дрэннай палітыкі? Ад дрэннага ўрада?**

**І. П.:** Пытанне ставіцца не толькі так. Многапартыйнасць у нас цяпер без дакладна абазначаных межаў. Ідзе актыўнае ўварванне не толькі ў рабочае асяроддзе, але і ў дырэктарскі корпус — кіраўнікоў, напрыклад, уцягваюць у кааператыўную дзейнасць. Але за ўсё трэба плаціць — і ўжо выводзяць парткомы з прадпрыемстваў, выходзяць з партыі... Ёсць такія факты ў Вярхоўным Савеце Расіі, ёсць факты і прамога подкупу. Усё гэта — формы палітычнай барацьбы.

Адсюль — і супярэчлівасць становішча.

А абараняць трэба — ад дзялкоў ценявой эканомікі, ад бюракратыі, ад новага класа, які нараджаецца, — свабодных прадпрымальнікаў.

**Г. З.:** І ўсіх трэба абараняць ад таго, чаго баяцца людзі, — ад нарастання анархіі, ад злачыннасці, ад нацыянальных канфліктаў.

**— Ваша партыя з газет мае толькі «Советскую Россию». Ці будуць яшчэ?**

**Г. З.:** Пытанне аб сродках масавай інфармацыі — адно з галоўных. Партыя ж у свой час і пачыналася з газеты. Мы дабіліся павелічэння тыражу «Советской России», бо ў кіёсках яна не ляжыць, а ў Маскве нумары з вострымі артыкуламі некаторымі скупляюцца і знішчаюцца. Будзе ўкладка для моладзі, свой часопіс, сваё выдавецтва...

Цяпер прапануюць свае паслугі і тыя людзі, якія раней былі ў баку ад нас. Створаны магутны інфармацыйна - аналітычны цэнтр пры ЦК...

**— Хутка будзе абмяркоўвацца праект Праграмы КПСС, ці ёсць свой праект у КП РСФСР?**

**І. П.:** Такія праекты ёсць у ленінградскіх камуністаў, у іншых рэгіёнах. Але мы не хацелі б выступаць з асобным праектам Праграмы, бо ў КП РСФСР больш палавіны камуністаў краіны, мы — цэласная арганізацыя. А свая Праграма —гэта пачатак расколу КПСС.

**Г. З.:** У краіне не засталося амаль ніводнай структуры, якая была б у стане кіраваць. Многія лічаць, што калі ўзмоцніцца разлад у партыі, то яна развaліцца. Доля ісціны ў гэтым ёсць. Выйграе той, хто прапануе нешта канкрэтнае, што дазволіць набыць упэўненасць у заўтрашнім дні.

**— Партыя траціць падтрымку рабочых, аб чым сведчаць забастоўкі шахцёраў. Што тут трэба рабіць?**

**І. П.:** Мы не адзін раз былі і ў Кузбасе, і ў Комі. Пазіцыі партыі ў рабочым руху аслаблі. Аднак у Комі другі сакратар гаркома днямі выбраны дырэктарам шахты, і ў Кемераве цяпер не крычаць «Далоў камуністаў!» У Польшчы, Румыніі людзі просяць прабачэння ў камуністаў за залішне рэзкія першыя ацэнкі. Думаю, партыі варта мець групы маладых камуністаў — а яны ўжо ёсць у Маскве, у прыватнасці, у МДУ, — калі страціў пазіцыі камсамол. Мы і не думаем сёння працаваць у старым апаратным стылі. Сітуацыя мяняецца на нашу карысць.

**— Як бы вы ахарактарызавалі палітычную надбудову пры шматукладнай эканоміцы?**

**І. П.:** Каб працэс многапартыйнасці развіваўся нармальна, у нас склалася б камуністычнае крыло і сацыял - дэмакратычнае, якія мелі б у многім адзіныя карані — сацыяльную справядлівасць, салідарнасць... На жаль, цяпер расце антыкамуністычнае крыло. Многія партыі базіруюцца толькі на прадпрымальніках.

**— Адносіны да дэпартызацыі арміі?**

**І. П.:** Армію дэпартызаваць нельга. Што будзе, калі, дапусцім, з мільёна сённяшніх армейскіх камуністаў, 100 тысяч адмовяцца здаць партбілеты? Адзін падводны ракетаносец, які ўзбунтуецца, здольны за 30 мінут ліквідаваць усялякую розніцу паміж дэмакратычным і таталітарным рэжымамі.

**— Складваецца ўражанне, што Палітбюро ЦК КПСС цяпер засядае рэдка. Чаму няма інфармацыі аб гэтым?**

**І. П.:** Палітбюро, як правіла, вядзе Гарбачоў. Пасяджэнні — раз у месяц. Напэўна, сапраўды рэдка. Трэба шукаць аптымальны варыянт кіравання партыяй.

**— Вас папракаюць у кансерватызме. Што гэта такое, на ваш погляд?**

**І. П.:** Кансерватызм — гэта імкненне захаваць усё лепшае, каштоўнае. Хопіць для Расіі эксперыментаў і для Саюза таксама. Хопіць праграм тыпу 500 дзён. Гэта нерэальна, будзе яшчэ горш — так лічаць буйнейшыя эканамісты на Захадзе. Авантурна сцвярджаць, што фермеры без сродкаў механізацыі накормяць краіну.

**Г. З.:** Мы сустрэліся з вядомым Стывам Коэнам. Ён лічыць, што ў нас зусім скажонае ўяўленне пра кансерватызм. Кансерватызм і дэмакратыя дапаўняюць адзін аднаго. У нас з кансерватызму робяць пудзіла, а на Захадзе даўно прызнаны яго поспехі.

**— Як адносяцца ў Маскве да мэра?**

**Г. З.:** Ведаеце, калі адну бабульку спыталі пра гэта, яна адказала так: няхай хоць што-небудзь будзе ў продажы...

**Ул. НАРКЕВІЧ.**

